## МУХАМОР

Жыў у лесе мухамор,
Клікалі яго Ягор.
У Ягора-мухамора
Мухаморак ажно сорак.
І шчаслівым быў Ягор,
І крычаў ён на ўвесь бор
Ў бок суседзяў – маслякоў
Ды груздоў, баравікоў:
“Не сядзіце тут ля нас –
Мухамор – элітны клас!..”
Ды грыбнік у лесе быў –
Ўвесь той “клас” нагой разбіў.

# МЫШКА

– Што рабіла ўчора, мышка?
– Я чытала дзеткам кніжку.
– Што рабіла сёння зранку?
– Ела ціхенька смятанку...
– Пазаўчора дзе была?
– Ледзь ад коткі уцякла.
– А на заўтра маеш штосьці?
– Сем сясцёр чакаю ў госці.



## ПОНІ

“У мяне падняўся ціск –
Не паеду ў Ваўкавыск,
Там ваўкоў, магчыма, многа –
Не туды мая дарога...
Не паеду я у Кобрын –
Там вужакі ёсць і кобры.
Нават Жабінку аб’еду –
Жабы квакаюць там летам...” –
Разважала гэтак поні
І... паехала у Слонім.

## МЕТЭАРЫТ

Ў акіяне мудры кіт
Адшукаў метэарыт.
У акулы запытаў:
– Там метэарыт упаў?
А акула адказала,
Што яго не сустракала,
А калі б сустрэўся ён,
Праглынула б, як планктон...
Мудры кіт хвастом махнуў:
– Праглынула б?.. Ну-ну-ну!..



## ПЕЎНІК І ЛІСА

Пеўнік Пеця вельмі рана
Назбіраў грыбоў крамяных.
А калі дадому нёс –
Ўбачыў ліску ля бяроз.
Як убачыў яе Пеця –
Паляцеў хутчэй за вецер.
Не дагнала яго ліска,
Бо было да вёскі блізка.

# КУРАПАТКА

– Адкажы мне, курапатка,
Дзе твае сям'я і хатка?
– Мая хатка там, на волі,
Дзе шмат сонца і раздолля,
Каршакі дзе не лятаюць
І нас зверху не хапаюць,
Там, дзе луг і дзе палеткі,
Дзе растуць навокал кветкі...
Там мой дом і мае дзеткі.



## ДЗЬМУХАВЕЦ

“Сёння ў полі я баец, –
Выхваляўся дзьмухавец. –
Бо ні ў кога, а ў мяне
Капялюш – на галаве:
Не баюся я дажджоў,
Сонца, граду і грамоў...”
Ветрык, што імчаў ля груш,
Здуў ягоны капялюш.

## МУШКА

Заляцела мушка ў хату
І сыграла нам санату.
І гудзела, і звінела,
Бо на вуліцу хацела.
Адчыніў я ёй акно –
Вылятай, пакуль відно.

# КАНЬКІ

Насадзілі ваўкі
На лапы канькі
І па лёдзе сталі
Катацца.
Ды зляцелі канькі –
І упалі ваўкі,
Ледзь змаглі на лапы
Падняцца.



## ВОЎК-ТАЎКАЧ

Моцнай лапай шэры воўк
Мокры снег у лютым тоўк.
Тоўк ён правай лапай,
Левай,
Задняй лапай і пярэдняй.
Прамачыў воўк лапы так,
Што закашляўся, бядак.
Прывязлі яго ў бальніцу
І пакінулі лячыцца.
Тыдні тры ваўка лячылі
І вясною адпусцілі.

# ПАДАРУНАК

Дзік купіў для ліс валёнкі –
Ліс ён ведаў восем толькі.
Колькі ж дзік купіць іх змог –
Для лісіных тонкіх ног?..



## СНЕГІРЫ

На санках
З горкі на двары
Любяць ездзіць снегіры.
Сам снягір са снегірыхай,
І пятнаццаць
Снегіратак –
Іх шчаслівых
Птушанятак.
Ехаць з горкі не баяцца –
Любяць разам пакатацца.
Вельмі дружная сям'я...
З імі раз праехаў я.

## ЛЕКАВЫЯ ЗЁЛКІ

Прынясла ліса на золку
На кірмаш на продаж зёлкі:
Мяту, ландыш, зверабой,
Дзівасіл ўзяла з сабой,
Святаяннік, крывасмок,
Медуніцу і лянок.
Прыхапіла і шалфей
Для звяроў і для людзей...
Ды купляць іх не хацеў
Ні мядзведзь,
Ні воўк,
Ні леў.
І вавёрка не купіла,
Хоць з карзінаю хадзіла.
Нават вожык не жадаў –
Ён грыбы сабе купляў.
Не прыйшлі па зёлкі штось
Ні бабёр, ні рысь, ні лось.
Дзік з лісіцай не вітаўся,
І без зёлак ён застаўся.
А вось жвавыя сарокі
Ўсе скупілі ў ліскі зёлкі.

## СОБАЛЬ І ГОМЕЛЬ

Купіў собаль
сабе "опель"
і паехаў
ў горад Гомель,
бо там понча
скураныя
прадаюць з усіх
краёў.
Але пончa дарагія,
іх не ўсе могуць
купіць.
Ёсць там нават і такія –
ад цаны
аж поўсць дрыжыць.
Ўбачыў собаль
цэны рынку,
і уцёк ён
праз хвілінку.
Потым хутка
сеў у "опель"
і пакінуў
горад Гомель.



## БОБ

Боб садзілі каля хаты
Тата-драч і драчаняты.
Шэрай дзюбай птушаняткі
Падавалі боб той татку.
Татка роўна па градзе
Дзюбай корпаў – хай расце!
Пасля працы драчаняты
Паляцелі ўсе дахаты,
А пасля чакалі лета,
Калі боб паспее гэты.





## ТРАКТАР І БУСЕЛ

Паказвае ў полі характар,
Плугі прычапіўшы як трэба,
Зямлю арэ з раніцы трактар,
Аж рэха схавалася ў неба.
Пан бусел прыйшоў. Далікатна
Глядзіць, як арэ ў полі трактар.
Ён ходзіць па полі ўзараным,
Нібы брыгадзір апантаны.
“Хоць тут і няма яшчэ градак,
Але ўжо патрэбен парадак”, –
Сказаў усім бусел цыбаты,
І птушак прагнаў ён дахаты.

## ПАВУЧОК

Павучок-крыжавічок,
Як красёнцы лапкі,
Вельмі хутка сетку сплёў
У кутку пад лаўкай.

Неяк муха-цмакатуха
Побач пралятала
І у сетку павука
Раніцай папала.

"Хопіць, мушка, не крычы –
Я табе не веру.
Будзе сёння у мяне
Смачная вячэра".

## Вавёрка хваліцца хвастом

Хоць маленькі ў мяне рост,
Ды найлепшы маю хвост,
Бо ніхто такіх не мае,
Хвост мяне абараняе,
Прыгожосць хвост надае.
Воўк сярдзіты пазнае,
Захапляецца мядзведзь.
Ліска любіць паглядзець
На мой самы лепшы хвост.
Пазнае мяне і дрозд,
Зайка гладзіць хвост пушысты,
Серабрысты і варсісты.
Спадабаўся хвост ільвіцы,
Мурашам, змяі, сініцам...
Толькі малпа вельмі злая,
Бо пухнатасці не мае.

## ГРЭБЕНЬ І ПЕВЕНЬ

Пайшла курка ў горад Чэрвень
І купіла пеўню грэбень.
А калі ішла праз грэблю,
То згубіла грэбень пеўня.
“Не бядуй, – сказаў ёй певень, –
Свой уласны маю грэбень.”



## ПЕРНІК

Зайка есць салодкі
пернік.
Сам схаваўся
у бярэзнік,
бо баіцца, каб
драпежнік
не забраў у зайкі
пернік.
Пернік смачны, пахне
мёдам,
ён з разынкамі ўнутры...
– Смачна есці! – пажадалі
зайку ўсе яго
сябры.

## ВОЎК І АЎТАМАБІЛЬ

Воўк купіў аўтамабіль
І праехаў дзесяць міль.
А калі заехаў ў лес –
З'ехаў ў яму
"Мерсэдэс".
Пазбягаліся звяры:
Што за грукат у бары?..
Растлумачыў дзік
Ўсім строга:
"Гэта воўк шукаў дарогу".





## ВАВЁРКА

Ах, вавёрачка, вавёрка,
Лушчыш ты арэшкі лоўка
І гуляеш па сцяжынках,
Як маленькая пушынка.
Скачаш ты туды-сюды –
І не ведаеш нуды.
Кроплі ранішняй зары
Ты збіраеш у бары.
А яшчэ грыбоў тут шмат
Для тваіх ваверчанят.
Я збіраць дапамагу –
Хопіць вам на ўсю зіму.



## ЗАГАДКА АД СІНІЧАК

Дзве сінічкі, дзве сястрычкі,
Прыляцелі да крынічкі.
Папрасілі дзве сінічкі
Па дзве кропелькі вадзічкі.
А за гэта ёй сястрычкі
Прынясуць у дзюбах знічкі.
Колькі разам там сінічак,
Кропель, знічак і сястрычак?





# Свеціць месячык знаёмы

## ХЛЕБ

На стол мама хлеб пакладзе,
Адрэжу ад бохана скібу.
Здаецца, што бохан гудзе,
Авейвае пахам сядзібу.

А можа, ў ім звон не астыў,
Што сейбіту добра вядомы?
Зярнят звон буйных, залатых,
Раскаты вясновага грому?..

А можа, той спеў жаўрука
І гул трактароў і камбайнаў
Паклала матулі рука
На стол асцярожна і дбайна?..

## ТРЫЯЛЕТ

Чыстая, вясёлая вада
З красавіцкім сонейкам у згодзе.
Па балоце першы бусел ходзіць –
Чыстая, вясёлая вада.
Будзе шчасце, кажуць у народзе, –
Буслу кола пакладзі на дах...
Чыстая, вясёлая вада
З красавіцкім сонейкам у згодзе.



## МАМЫ ТАНЦУЮЦЬ ВАЛЬС

Ў гэты святочны час
Музыка больш за словы.
Мамы танцуюць вальс,
Лёгкі,
Пяшчотны,
Вясновы.
Людзі, спыніце ракеты,
Шчасце залежыць ад вас.
Радуецца планета –
Мамы танцуюць вальс.
Вальсам вясну адкрываюць,
Каб расцвітала яна.
Звонка аркестры іграюць.
Мамы,
Вальс
І вясна...
Ў залах прыціхлі дзеці,
Нібы спыніўся час:
Сёння на ўсёй планеце
Мамы танцуюць вальс.

## ЖАДАННІ

Дажджу я жадаю – хмаркі:
Хай капае ён весялей
Не на абгарэлыя танкі –
На твары шчаслівых людзей.

Сонцу жадаю – праменяў:
Хай свеціць яно ярчэй
Не на груды каменняў –
На твары шчаслівых людзей.

Птушкам жадаю – выраю:
Хай далятаюць яны.
Людзі, а вам зычу – міру,
А не пякельнай вайны.

## МОЙ ДЗЕД

Мой дзед на фронце ваяваў,
З вайны дамоў ён не вярнуўся.
На здымку дзеда я пазнаў, –
Мне ён, здалося, усміхнуўся.

Ён так падобны на мяне,
З русавалосаю чупрынай...
Мой дзед загінуў на вайне
І не убачыў свайго сына.

Бо дзедаў сын – мой родны тата:
Яго бабуля гадавала.
Свайго любімага салдата
Яна дамоў заўжды чакала,
Ды не вярнуўся дзед з вайны...

Такі прыгожы і шчаслівы,
Ён да мяне прыходзіць ў сны:
То ў садзе рвём з дзядулем слівы,

То мы на рэчку з ім бяжым,
То па грыбы у лес знаёмы
Ідзём, трымаючы кашы...

А як прачнуся – сумна стане,
Бо дзед прыходзіць толькі ў сны,
А вось сапраўднага вяртання
Ужо не будзе з той вайны...

І зорка ў дзеда на пілотцы –
Я наглядзецца не магу...
Жыву на свеце я – і моцна
Пра дзеда памяць берагу.

# ШАША

Ад Мінска і да Гродна
Шашу напоўніў рокат.
Ёй не бываць самотнай
Пад шапкамі аблокаў.



Па ёй імчаць машыны,
Вязуць да нас гасцей...
Меладыяй адзінай
Нацешыцца за дзень.

І ёй, скажу вам шчыра,
Заўжды прыемна будзе,
Калі з дабром і мірам
Па ёй спяшаюць людзі.

# А СНЕГ РЫПІЦЬ

Імчаць па лесе коні белыя,
Страсаюць грывай снежны пух.
Іскрацца хвоі заінелыя,
Люстэркам ззяе мяккі луг.
А снег рыпіць, і звоняць бомы,
І танчаць дрэвы і кусты.
І свеціць месячык знаёмы,
Нібы пярсцёнак залаты.



## Сінія сняжынкі

На даху іней –
сіні-сіні.
Сіняе неба,
як хвалі на моры.
На вокнах малюнкі –
сінія ўзоры.
Хустка сіняя
у дзяўчынкі.
І сінія падаюць
з неба сняжынкі.

## У ЛЕСЕ

Нібы ў казцы, лес стаіць,
Шапкай белаю накрыўся.
Спахмурнеў,
Як дзед стары,
І аб нечым зажурыўся.
Пад камлямі у кустах
Сам мароз-траскун
Начуе...
Ды ўсміхаецца бярозка –
Бо вясны дыханне
Чуе.

# НАВАЛЬНІЦА

Неба казыча гром,
Град засыпае ганак.
Ясень дрыжыць пад дажджом,
Слухае сварку маланак.



# ЛЕТА

Шчабеча лета,
гуляе лета,
зганяе ветрык
лістоты сон.
Праменіць сонца –
цяплом сагрэты
ваколля
кветкавы парасон.



## ЖНІВО

Паеду у вёску,
дадому, –
там
пачалося жніво
і возяць салому.
Там,
высока на возе,
бацька бачыць
за Нёманам –
восень.

## ВОСЕНЬ

Крочу ў восень
Ціха, асцярожна.
Вецер лісце
Жоўтае скубе.
Скача дождж
Па голай колкай пожні,
Як па прызбе
Шэры верабей.



## СЯННО

Ў ціхім горадзе Сянно
Я не быў, сябры, даўно.
Кліча зноў мяне яно,
Таму еду я ў Сянно.
Там азёры, сонца. Гусі
Ходзяць вольна па траве...
Там жыве мая бабуся,
І дзядуля там жыве.
І трапляю я адразу
Як ў шчаслівае кіно.
І жыццё маё – бы казка,
Як прыеду я ў Сянно.

# ЛЯСНІК

Мой тата
працуе,
мой тата –
ляснік.
У лесе вітае
яго
лесавік.
І шэры вітае,
і нават мядзведзь
спяшаецца з таткам маім
пасядзець.
Яшчэ
на паляну
у сонечны
дзень
прыходзіць вітацца
да таты
алень.



І дзік прыбягае,
і зай касавокі,
і лось з гушчару
валачэцца высокі...
З усімі знаёмы
у лесе
мой тата.
Ён любіць свой лес
аддана,
заўзята.

Часу свайго
для ўсіх
не шкадуе,
звярыны спакой
заўсёды
вартуе.





# Люлі-люлечкі-люляйкі

## ЛЯЛЬКІ

Люлі-люлечкі-люляйкі,
Прыкупілі мы дзве лялькі
Для Аліскі і Ульянкі,
Каб гулялі ў забаўлянкі:
Апраналі і кармілі,
У садок малых вадзілі,
Лялькам песенькі спявалі,
Калыхалі і скакалі...
Люлі-люлечкі-люляйкі –
Падрастаюць нашы лялькі.

## АПОСТРАФ

Пад’ём,
Дзям’ян,
прыйшоў
Лук’ян.
Прынёс табе
Лук’ян
саф’ян.
Узяў
Дзям’ян
сабе саф’ян,
лёг спаць далей,
бо спіць
сям’я.

## МЕТРО

Першы раз, – сказаў Пятро, –
Я праехаў у метро:
Пад зямлёй ляцеў стралою,
Думаў, выскачу на волю –
Ў неба птушкай узлячу...
Зноў, сябры, ў метро хачу.



## ВАСІЛЁК І КІСЯЛЁК

Любіць хлопчык Васілёк
Піць вішнёвы кісялёк.
А нап'еццa кісяльку –
Паляжыць крыху ў цяньку.
А пасля, як ёсць работа,
Робіць ён усё з ахвотай.
І заўсёды мама з татам
За свайго сыночка рады...
Але больш за ўсё сынок
Любіць смачны кісялёк.

## ДЗІЎНЫ КВАТАРАНТ

Кінуў дзед на плот пінжак,
Правісеў ён месяц так.
А пакуль вісеў пінжак –
Пасяліўся ў ім хамяк.
Бо ў кішэні пінжака –
Добры дом для хамяка.
"Хто такі? – спачатку дзед
Зразумець не мог як след.
Ды па-свойму даў адказ: –
Не хамяк, а верхалаз!"

## ФЯДОТ І БУТЭРБРОД

Ў нашым класе
Ёсць Фядот.
Любіць хлопец бутэрброд:
З маслам свежым і ікрой
Ён прыносіць ў клас з сабой.
Прынясе яшчэ халвы,
І пячэння, і хурмы...
А пасля таўстун Фядот
Ўсё кладзе са смакам ў рот...
Ды калі б не піў кампот –
Папярхнуўся б наш Фядот.

## ЗМЕЙ

Бяжым на вуліцу хутчэй,
Там сяброў сабраў Андрэй.
Акружылі ўсе Андрэя –
Запускае хлопчык змея.
Цацку-змея не купіў –
Гэту цацку сам зрабіў.
Змей вялікі і шырокі,
Для палёту вельмі лёгкі...
І... узняўся ў неба змей,
І шчаслівым стаў Андрэй.
А сябры яго вітаюць,
Быць канструктарам жадаюць.



## “ГРЫБНІКІ”

Раз, два, тры,
Чатыры, пяць,
Будзем мы грыбы збіраць.
Назбіраем поўны кошык,
Пазайздросціць
Нават вожык.
Ў свой зірне вавёрка схоў,
Скажа: “Шмат у вас грыбоў!..”





Раз, два, тры,
Чатыры, пяць,
Мы пайшлі грыбы збіраць.
Шмат хадзілі, шмат блукалі –
Тры лісічкі адшукалі...
Прыцягнуліся дамоў
Без настрою і грыбоў.
Раз, два, тры,
Чатыры, пяць,
Заўтра пойдзем зноў збіраць
Мы грыбы ў лясочак свой:
Можа, знойдзем і настрой?

## ЗІМА

Пасля школы вечарамі
Не даклічуцца бацькі:
Сталі лепшымі сябрамі
Дзецям санкі іканькі.
Разрумянілі усмешкі
Ў снежнай бітве хлапчукам
Лёгка зьлепленыя снежкі,
Што лятаюць тут і там.
Дзетак цешаць завіруха
І сярдзіты зух-мароз.
Ён кусае іх за вуха,
Ён кусае іх за нос...
Жвавым і цікаўным дзецям
Дорыць шмат зіма пацех.
І святлей няма на свеце,
Чым зімою белы снег.

## У ВЁСЦЫ Ў БАБУЛІ

– Баю-баюшкі, баюнькі,
Дзе былі вы?
– У бабулькі.
– Чым бабулька частавала?
– Хлебам свежым, смачным салам,
Сырадоем, маслам, квасам,
Паляндвічкай і каўбасамі,
Мёдам, бобам, агуркамі,
Морквай, бульбай, буракамі,
І цыбулькай з часнаком,
І варэннем з праснаком...
Елі ўсё мы, што хацелі,
Нават крыху патаўсцелі.
Летам ў вёсцы не хварэлі,
Ў горад ехаць не хацелі.

# САНКІ ДЛЯ АКСАНКІ

Для унучачкі Аксанкі
Дзед купіў у краме санкі.
Санкі лёгкія, з маторам,
І распісаны узорам.
Самі едуць па двары,
І пад горку, і з гары
Возяць пестачку Аксанку,
Як заможную шляхцянку...
Ды пакуль каталі санкі –
Рукі змерзлі у Аксанкі.

## ЮЗІК І ГУЗІК

Йшоў са школы
Хлопчык Юзік,
На дарозе бачыць –
Гузік.
“Гузік чый?” –
Ён запытаўся,
Ды ніхто
Не прызнаваўся.

Дома стаў як
Распранацца,
Бо на вуліцы
Зіма,
Не прыйшлося й
Углядацца –
Ў куртцы гузіка
Няма.



# РУКАВІЧКІ

Жылі-былі сястрычкі,
Дзве белыя рукавічкі.
Адна адной трымаліся,
На рукі надзяваліся.
Марозу не баяліся,
На саначках каталіся,
Са снегам абдымаліся...
Аднойчы дзве сястрычкі,
Дзве белыя рукавічкі,
Патрапілі ў мяцеліцу.
І нават ім не верыцца:
Згубіліся сястрычкі,
Нібыта ў небе знічкі.
Прыгрэла трохі сонейка –
Ляжалі яны роўненька
На снезе каля горкі...
Знайшоў іх там Ягорка.

# ГУСІ ДЗЕДА ЯЎСЕЯ

Выгнаў зранку дзед Яўсей
На лужок сваіх гусей.
Раптам гускі і гусак
Устрывожыліся так:
Аж шыпелі і крычалі,
Нават крыламі махалі.
І на дзеда пазіралі
Трыццаць гусак і гусак.
"Нешта тут у іх не так, –
Разважаў дзядусь Яўсей, –
Хтось палохае гусей."



Паглядзеў вакол стары,
На кусты і на расу...
І убачыў ён нару,
А ў нары пазнаў лісу.
Прытаілася лісіца,
І глядзіць на ўсіх, хітрыца:
Мо старэнькі дзед Яўсей
Ёй пакіне ўсіх гусей?..
Здагадаўся дзед Яўсей,
Пугу ён бярэ хутчэй.
Свіснуў пугай так умела,
Што ліса аж падляцела.
І пабегла ў лес наўпрост –
Мільгануў за горкай хвост.



## ВАЛЕРКА І ТАЛЕРКА

Не сядзіць хлапчук на месцы –
Згаладаўся, хоча есці.
Ўзяў вялікую талерку
І наклаў туды Валерка:
Бульбы смажанай, катлет,
А яшчэ паклаў рулет,
Кашы з рысу, вінегрэт,
І з патэльні ўзяў амлет,
З халадзільніка – паштэт...
Нёс талерку да стала,
А яна – нібы юла,
З рук саскочыла Валеркі.
І... разбілася талерка.

# А

Ён бліжэй да неба, гор,
Дом ягоны – ўвесь прастор.
Бачыць сонца ён вакол –
АРОЛ.





# Б

Вышыня заўсёды сніцца,
І яе ён не баіцца.
Сімвал нашай Беларусі –
БУСЕЛ.

# В

Да зярняткаў ён крадзецца,
Хоча есці ды пагрэцца.
Асцярожны да людзей
ВЕРАБЕЙ.



# Г



Любіць ў коміне гняздзіцца,
Ды ў цяпле ёй не сядзіцца.
На падворку бачым зранку
ГАЛКУ.

# Д

Асцярожны пеюнок,
Чуе кожны шум і крок.
Мільгане маленькі хвост –
Ведай, гэта птушка
ДРОЗД.



# ДЗ



У лесе, старых дзе шмат дрэў,
Адзін у бары ён займеў
Сапраўдны медычны аддзел –
ДЗЯЦЕЛ.

# ДЖ

Птушкам жыць не проста –
Ўсе хаваюць гнёзды,
Каб драпежнікі мінулі
Іх палі, балоты,
ДЖУНГЛІ.

# Е



Жоўты чубок
І дзюбка аранжава-жоўтая
Мільгануць між гаёў, як шабля, –
Пералётная, буслападобная
ЕГІПЕЦКАЯ ЧАПЛЯ.

# Ё

Салавей, снягір, удод –
З іх ніхто не чуў пра
ЁД.

# Ж



Высока ў неба ён заўжды
ўзлятае
І свае песні з дзюбы дасылае,
Бо ён палеткаў радасны сябрук –
ЖАЎРУК.

# З



Родных дзетак пагубляла
І другіх не шанавала.
Дзе ж твая, скажы, матуля,
ЗЯЗЮЛЯ?

# І



Купіў сабе парык,
Хацеў схаваць кадык.
Ды не схаваў кадык
Пад ім буркун
ІНДЫК.

# К

Жыве ля азёр і балот,
Не лезе ў чужы агарод.
Спрадвеку ён плакаць
прывык –
КУЛІК.





# Л

У'е гняздзечка ля акна –
Не бывае ў ім адна.
І шчабеча ласкава
ЛАСТАЎКА.

# М



На высокіх дрэвах каля рэчкі
Мае гэта птушачка гняздзечка.
Мушак ловіць летам вельмі лоўка
МУХАЛОЎКА.

# Н

Маленькая, хуткая,
Заўсёды ў паветры
Пад сонцам гарачым і ветрам.
Нектар п’е на кветках з раніцы
НЕКТАРНІЦА.



# О



Ці была
Гэта птушка у Оршы?
Як спытаць у паўночнай
О́ЛУШЫ?

# П

Не баляць у яе ножкі,
Хоць прабегла ўсе дарожкі.
Просіць піць заўсёды звонка
ПЕРАПЁЛКА.



# Р

У муравейніках купаецца,
Ад людзей хаваецца.
Ён рабы наглядчык –
РАБЧЫК.



# С



Не любіць яна журавіны,
Ды любіць прыносіць навіны.
Прыносіць іх зблізку
й здалёку
САРОКА.

# Т



Дзяўбе сваёй дзюбай ён вузкай
Слімакоў, чарвякоў і малюскаў.
Ён птушак балотных настаўнік –
ТРАЎНІК.

# У



Птушка-насарог –
Дзюба нібы рог.
Носіць чуб штогод
УДОД.

# Ф



Прыгожых такіх больш
не бачна нідзе,
Адзін ён па вуліцы нашай ідзе,
Нібыта заможны
і доблесны пан –
ФАЗАН.

# Х

Гэта птушка-сем'янін
З чужых вяртаецца краін...
Толькі снег вакол растаў –
Тут як тут сядзіць
ХРУСТАН.



## Ц

Растапырыў дужы хвост,
Мае з курыцу ён рост.
Ды людскіх баіцца рук
ЦЕЦЯРУК.



## Ч



Сеў на плоце на гладыш
І на нас здалёк глядзіш.
Ты чаго адзін маўчыш,
ЧЫЖ?

## Ш

Адчыняем вокны насцеж –
Залятае песняй шчасце,
Бо на песні ён мастак –
ШПАК.



# Э

Птушка з далёкай прапіскай
Шлях прабягае няблізкі.
Сам вырашае праблему
ЭМУ.



# Ю



Юць, юць, юць...
Ён вясной не дасць заснуць.
Птушак, быццам на урок,
Кліча ў лесе ўсіх
ЮРОК.

# Я

Зверху хутка налятае –
Куранят усіх хапае.
Днём і сонечным, і ясным
Гэта робіць толькі
ЯСТРАБ.



# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

ЗАГАДКА АД СІНІЧАК

Вершы для дзяцей

Для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту

Рэдактар М. А. Беразоўская

Тэхнічнае рэдагаванне і вёрстка К. П. Чындаравай

Paper vector designed by Freepik.

Падпісана ў друк 15.12.2022 г. Фармат 70x100 1/32
Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура “FuturaBookCTT”.
Ум. друк. арк. 3,06. Ул.-выд. арк. 1,42, іл. 0,41. Тыраж 200. Заказ №636.

Выдавецкае і паліграфічнае выкананне ТДА “Барк”.
Пасведчанні аб дзяржрэгістрацыі ў якасці выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў №1/190 ад 19.02.2014 г., №2/46 ад 20.02.2014 г., №3/584 от 17.03.2014 г.

246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3
Тэл. (0232) 50-68-73, 50-34-71
odobark@yandex.by




УДК 82(476.2)-1
ББК 84(4Беи)6-5=411.3
Ч 97

Чыгрын, С.М.
Ч 97 Загадка ад сінічак: вершы для дзяцей / Сяргей Чыгрын. – Гомель: Барк, 2022. – 76 с.

ISBN 978-985-7213-77-1